ДАЙДЖЕСТ

## В Англии арестовали человека, похитившего секреты НАТО

*Это уже не секрет!*

Англичанин арестован по подозрению в похищении секретов НАТО и Министерства обороны Англии. 29-летний Рафаэль Браво, сотрудник службы безопасности компании British Aerospace, подозревается в похищении секретных документов. Как сообщается, в документах содержится информация, имеющая непосредственное отношение к национальной безопасности Англии и безопасности НАТО. Как ожидается, Браво пробудет в тюрьме до суда, который состоится 5 ноября.

**"Би-Би-Си Ньюс".**

## В Белфасте протестанты возмущены действиями школьниц-католичек

Войска и полиция в Северной Ирландии образовали кордон безопасности вокруг католической школы для девочек в протестантском районе Белфаста. Участники беспорядков с обеих сторон швыряли камни и бутылки с зажигательной смесью в сотрудников сил правопорядка. В разных частях города происходили драки. Девочки-католички, самым младшим из которых было не более четырех лет, прошли через толпы протестантов, направляясь в школу. Полиция в полной боевой выкладке использовала пластиковые щиты для того, чтобы образовать коридор, по которому могли пройти школьницы. Протестанты были возмущены тем, что дети католиков проходят через их район по дороге в школу. По их мнению, школьники должны пользоваться другой, менее прямой дорогой. Скандал возник еще в июне, когда протестанты в течение двух недель блокировали дорогу.

**"Би-Би-Си".**

## Колумбийские спецслужбы изъяли три тонны кокаина

В минувшие выходные колумбийские спецслужбы в трех различных операциях, проведенных на Карибском побережье, изъяли три тонны кокаина и арестовали шестерых подозреваемых. Об этом сообщили представители ВМС Колумбии. Партия кокаина, рыночная цена которой в США составляет около $90 млн., была расфасована в полуфабрикаты завтраков, которые, согласно транспортной документации, должны были быть отправлены в Центральную Америку.

## Акула напала на семейную пару: один из супругов погиб

В американском штате Северная Каролина в результате нападения акул на супружескую пару погиб мужчина, его жена получила тяжелые ранения. Об этом сообщили представители властей штата. Акула напала на купавшихся недалеко от городка Эйвон. Пострадавшая женщина была доставлена вертолетом в клинику и в данный момент находится в тяжелом состоянии, которое, однако, характеризуется врачами как стабильное.

Это уже вторая смерть, произошедшая в результате атаки хищников в этом районе в последние несколько дней. Накануне от телесных повреждений, нанесенных акулой, скончался 10-летний мальчик. Пляжи на побережье по-прежнему открыты для посетителей, сообщает Reuters. Власти штата намереваются, однако, направить в ближайшее время на вертолетах инспекторов, которые должны будут отслеживать активность хищников.

## Кабинет министров Южной Кореи подал в отставку

Это решение было принято на следующий день после того, как национальное собрание вынесло министру по межкорейским отношениям Лим Донг Вону вотум недоверия и осложнило тем самым дипломатические отношения между Сеулом и Пхеньяном. Заявления об отставке были поданы до начала утреннего десятичасового заседания Кабинета министров. Президент Южной Кореи заявил, что будет и далее проводить политику "сияющего солнца", несмотря на вынесенный Лим Донг Вону вотум недоверия.

## Актриса Кейт Уинслет ушла от мужа

Сыгравшая роль в фильме "Титаник" актриса Кейт Уинслет решила жить отдельно от своего мужа, кинорежиссера Джима Триплетона, менее чем через год после рождения их дочери. Sky Television процитировало заявление пресс-секретаря актрисы, сказавшего, что "никакое третье лицо не является причиной развода".

Дважды номинированная на Oscar 25-летняя Уинслет вышла замуж за Триплетона в 1998 году после того, как снялась в его фильме "Hideous Kinky".

## Военный суд Гамбии приговорил мятежника к 16 годам тюрьмы

Военный суд Гамбии приговорил бывшего главу президентской гвардии лейтенанта Лэндинга Саннеха к 16 годам тюрьмы и исправительных работ по обвинению в подготовке мятежа. Саннех был арестован в минувшем январе после неудавшегося заговора против президента Яхьи Яммеха, пришедшего к власти в 1994 году в результате военного переворота, однако в 1996-м законно выигравшего президентские выборы. Согласно законам Гамбии, в течение шести дней адвокаты Саннеха могут обжаловать приговор суда.

**"Рейтер".**

## В Неваде разбился штурмовик ВВС США

Во время выполнения учебно-тренировочного полета примерно в 160 км к северо-востоку от Лас-Вегаса разбился штурмовик ВВС США A-10 Warthog Thunderbolt II. Самолет врезался в скалы на границе штатов Невада и Аризона. По сообщению пресс-секретаря авиабазы Nellis Майка Эстрады, пилот успел катапультироваться непосредственно перед падением самолета. В настоящее время он найден и на полицейском вертолете доставлен на авиабазу, где ему оказана первая помощь. Сообщается также, что на борту самолета больше не было никого из членов экипажа.

Инцидент произошел недалеко от автотрассы Interstate 15. Несколько водителей сообщили, что они видели по меньшей мере три самолета, летающих над горами, прежде чем в ущелье раздался взрыв и повалил дым.

**"Ассошиэйтед Пресс".**

## Летчик проплыл 50 километров

Пилот одномоторного самолета Цессна (Cessna), упавшего в море недалеко от берегов Греции, остался жив. 47-летний летчик Димостенис Димитропулос совершал одиночный полет из Афин в Корфу. В результате удара о водную поверхность Димостенис Димитропулос потерял сознание, но бывший на нем спасательный жилет не дал утонуть. Затем в течение десяти часов летчик преодолел около 50 километров, отделявших его от берега. После полученного переохлаждения летчик был госпитализирован.

## Брат Саддама Хусейна бежал...

По неофициальной информации, Алаа аль-Маджид, член семьи иракского лидера Саддама Хусейна, несколько дней назад прибыл в столицу Иордании Амман, чтобы просить политического убежища. По его словам, он двоюродный брат Саддама Хусейна и его бывший помощник, однако покинул Ирак из-за разногласий с правительством. Как сообщил официальный представитель в Иордании, аль-Маджид не просил убежища в этой стране. Он отрицает также, что этот человек — член семьи Саддама Хусейна. Кроме того, он подчеркнул, что аль-Маджид не был политической фигурой в Ираке. Однако один из живущих в Лондоне иракцев, который работал с сыном Саддама Хусейна, подтвердил личность аль-Маджида.

**"Би-Би-Си".**

У СУСЕДЗЯЎ

# ДРУГАЯ ХВАЛЯ ПОЛЬСКІХ РЭФОРМ

## Як займець добрую пенсію і сямейнага доктара?

*(Праця. Пачатак у № 162.)*

Як зарабіць добрую пенсію? Такое пытанне хвалюе многіх людзей. Але ў нас яно не залежыць ад чалавека, бо памер пенсіі, які час ад часу індэксуецца ў залежнасці ад інфляцыі, вызначае дзяржава. Так раней было і ў Польшчы. Пенсіі павышаліся пад націскам прафсаюзаў, але ўсё роўна былі яны невялікімі, дзесьці каля 30 долараў.

Тым не менш расходы на пенсійнае забеспячэнне былі ўжо не пад сілу дзяржаве. Так, у 90-я гады выплаты пенсій і дапамог складалі 16 працэнтаў валавога ўнутранага прадукту, у той час як у багатых краінах Заходняй Еўропы яны не перавышалі 11 працэнтаў.

Усё гэта патрабавала хутчэйшага правядзення пенсійнай рэформы. Трэба было, з аднаго боку, павялічыць памер пенсій, а з другога — зняць пенсіённы цяжар з дзяржаўнага бюджэту. Але як такога дасягнуць?

Задачка даволі няпростая, але вырашальная. Аўтары праекта рэформы пенсійнай сістэмы "Шмат варыянтаў — гарантыя надзейнасці" прапанавалі захаваць мінімальную сацыяльную дапамогу ўсім грамадзянам і адначасова адкрыць кожнаму магчымасці для асабістага ўкладу ў сваю пенсію. Прафесар з Варшавы Марэк Дамброўскі так характарызуе новаўвядзенне: "Наша новая пенсійная сістэма базіруецца на трох складаемых: скарочанай былой пераразмеркавальнай сістэме, абавязковай накапляльнай сістэме на базе прыватных пенсійных фондаў і дадатковай накапляльнай сістэме".

Словам, канструкцыя новай сістэмы абапіраецца на тры ступені — дзве абавязковыя і адну добраахвотную. Першая ступень — гэта, па сутнасці, былыя мінімальныя выплаты. Другая ступень — адкрытыя пенсійныя фонды. Яны, як і фонды 1-й ступені, папаўняюцца абавязковымі ўзносамі. Ёсць яшчэ і добраахвотнае страхаванне, пенсійныя праграмы для рабочых і служачых. Значыць, кожны працаўнік у значнай ступені сам турбуецца пра сваю будучую пенсію.

Падкрэслім яшчэ раз. Галоўным арганізатарам пенсійнага забеспячэння выступае дзяржава. Але сістэма ўсеагульнага страхавання забяспечвае толькі элементарныя сацыяльныя гарантыі ў старасці. Аб больш высокім матэрыяльным забеспячэнні пасля выхаду на пенсію працаўнік павінен паклапатавацца сам, для чаго створаны адпаведныя магчымасці.

Такая сістэма ўводзіцца не адразу. Грамадзяне, якія дасягнулі 51 года і старэй, могуць рыхтавацца да пенсіі "па-старому". Яны могуць таксама падключыцца да сістэмы добраахвотнага страхавання, што павялічыць памер іх пенсіі. Тым, каму ад 31 да 50 гадоў, прадстаўлена права выбару. А вось на тых, каму толькі 30 гадоў і менш, у абавязковым парадку распаўсюджваецца новая сістэма пенсійнага забеспячэння.

Цяпер ідзе пераходны перыяд. Пачатая рэформа поўнасцю распаўсюдзіцца толькі на будучыя пакаленні пенсіянераў. Новая сістэма ў прынцыпе адмяняе шматлікія льготы, але частка з іх яшчэ застаецца.

Нягледзячы на тое, што не толькі палітычныя сілы, але і шырокія слаі грамадства актыўна падключыліся да абмеркавання пенсійных праблем аказалася, што далёка не ўсе маюць добрае ўяўленне аб мяркуемых зменах, бо адчуваецца недахоп інфармацыі. На гэта, на недасканаласць інфармацыйнай сістэмы яшчэ раней указвалі эксперты Сусветнага банка, але да іх рэкамендацый амаль не прыслухаліся.

Трэба адзначыць, што пенсійная рэформа, пачатая з канца 1998 года, мае як сваіх прыхільнікаў, так і крытыкаў. Яна развіваецца і ўдасканальваецца. Але факт застаецца фактам: калі ў 1990 годзе сярэдні памер пенсіі складаў 30 долараў, дык летась — 150.

Амаль такія ж няпростыя працэсы адбываюцца ў сферы аховы здароўя. У канцэпцыі рэформы ў 1996—1997 гадах было пакладзена палажэнне аб размежаванні функцый вытворцы і пакупніка медыцынскіх паслуг. Установам аховы здароўя дазвалялася зарабляць грошы. Пакупнікамі медыцынскіх паслуг павінны былі стаць касы медыцынскага страхавання. Меркавалася, што паміж установамі аховы здароўя і касамі на аснове перамоваў павінны заключацца дагаворы. Касы павінны былі фінансавацца за кошт абавязковых страхавых узносаў, якія ўносяцца фізічнымі асобамі са сваіх даходаў, а таксама дзяржавай — за тых, хто не мае адпаведных сродкаў. На касы ўскладваліся задачы па ацэнцы патрэбнасцяў у медыцынскіх паслугах сваіх пацыентаў, набыцці паслуг высокай якасці па даступнай цане.

Многія палажэнні канцэпцыі трапілі пад агонь крытыкі, у ходзе абмеркавання ўносіліся дапаўненні, у прыватнасці, такія, як адказнасць грамадзяніна за сваё здароўе, самакіраванне ў сферы аховы здароўя, яго беспрыбытковы характар дзейнасці, адказнасць усіх удзельнікаў сістэмы за яе эфектыўнае функцыянаванне.

У ліпені 1998 года Сейм прыняў Закон аб усеагульным медыцынскім страхаванні. Рэформа пачалася з 1 студзеня 1999 года.

Пераказ нават асноўных яе палажэнняў зойме шмат месца, таму спынюся толькі на самым галоўным: згодна з законам, пацыент мае права выбіраць сямейнага ўрача, бальніцу, у якой будзе лячыцца. Праўда, ён можа выбіраць медыцынскія паслугі толькі сярод тых устаноў аховы здароўя, з якімі яго бальнічная каса мае дагавор. Калі ж ён захоча падлячыцца ў прэстыжнай спецыялізаванай бальніцы, тады яму прыйдзецца даплаціць пэўную суму. Ён таксама мае права прымаць самы актыўны ўдзел у рабоце медыцынскіх і бальнічных кас.

Пакуль ход рэформы не выклікае аптымізму ў насельніцтва. Больш за тое, шмат незадаволеных. Непакояць праблемы фінансавання. Рост цэн на лекі ставіць пад пагрозу фінансавы стан бальнічных кас. Узніклі праблемы кантролю за якасцю медыцынскіх паслуг. Таму, на думку спецыялістаў, наспелі папраўкі ў Закон аб усеагульным медыцынскім страхаванні.

Пасля палутара гадоў рэформ пакуль цяжка даць ім адназначную ацэнку, тым больш што прававы аспект яе пастаянна мяняецца. Усё гэта сведчыць аб тым, што падобныя маштабныя рэформы патрабуюць вялікай і дэталёвай папярэдняй дапрацоўкі.

Але накірунак выбраны правільны. Удасканаленне сістэмы аховы здароўя працягваецца.

**На здымку:** *пажылы чалавек з горных раёнаў у нацыянальным касцюме.*

**Іван МАКАЛОВІЧ.**

*(Заканчэнне будзе.)*

# Минский мэр будет наливать

**В редакцию "Народной воли" попал удивительный документ — Распоряжение Минского городского исполнительного комитета от 29 августа 2001 года №786р "О торговом обслуживании на избирательных участках при проведении выборов Президента Республики Беларусь". Вот он целиком:**

*"В связи с проведением 9 сентября 2001 года выборов Президента Республики Беларусь:*

*1. Администрациям районов г.Минска совместно с главным управлением потребительского рынка и управлением общественного питания организовать торговлю широким ассортиментом плодоовощной продукции и продовольственных товаров, продукции общественного питания на всех избирательных участках с 08.00 до 20.00 часов.*

*2. Разрешить, в порядке исключения, реализацию на избирательных участках 9 сентября 2001 года алкогольных изделий в розлив.*

*3. Установить, что субъекты хозяйствования, осуществляющие выездную торговлю по поручениям администраций районов г.Минска, главного управления потребительского рынка, управления общественного питания, имеют право на розничную торговлю:*

*3.1. без оформления лицензий и приложений к ним на право розничной торговли и торговли алкогольными изделиями;*

*3.2. без применения кассовых аппаратов и отрывных талонов, по товарно-денежным сменным отчетам, зарегистрированным в налоговых инспекциях;*

*3.3. без внимания сбора за право торговли.*

*4. Установить, что транспортное обслуживание предприятий торговли и общественного питания во время организации выездной торговли на избирательных участках осуществляется по обычным тарифам.*

*5. УГАИ ГУВД Мингорисполкома (Сидореня А.Н) обеспечить пропуск машин при доставке оборудования и товаров на избирательные участки.*

*6. Контроль за исполнением настоящего распоряжения возложить на заместителя председателя горисполкома Байдака В.И.*

*Председатель исполкома*
*М.Я.ПАВЛОВ."*

От начала до конца этот так называемый официальный документ пронизан антиобщественной целью. Разрешено распивать спиртные напитки при скоплении людей, в школах (в них в основном расположены избирательные участки), в ответственный момент выбора, когда человек должен быть трезвым и чистым как стеклышко. Мало одурачивания мозгов по Белорусскому телевидению, решили эти мозги официально разбавить водкой. Причем водкой без наценки за выездное обслуживание.

Голосуйте и пейте, пьяницы всех мастей и полов. Пейте и голосуйте за иезуитскую власть, которая 9 сентября откроет для вас пьяные участки. И вы, коммерсанты и торговцы, тоже обеими руками держитесь за безответственную власть, которая разрешила вам продавать закуску без оформления лицензий, без кассовых чеков, в почетном сопровождении лояльной ГАИ.

Распоряжение, подписанное минским мэром М.Павловым, антизаконно по сути. Оно отменяет решения правительства о запрещении распивать спиртные напитки в общественных местах, принародно. Оно также отменяет множество государственных актов об упорядочении торговли, сводит на нет большую многолетнюю работу по внедрению кассового учета на всех предприятиях торговли, возвращает нас во времена хаоса, обсчета, обмана.

Приходите все, кто хочет, чтобы правила ТАКАЯ ВЛАСТЬ. Минский мэр, представитель этой власти, будет наливать.

**Николай ИВАШКЕВИЧ.**

ЛІКБЕЗ

# ВЫРАДКІ

**Міхаіл МАЛЬКО,**
**кандыдат фізіка-матэматычных навук**

*У 1907 г. Янка Купала напісаў верш "Ворагам Беларушчыны". Вось некалькі радкоў з гэтага верша:*

*Чаго вам хочацца, панове?*
*Які вас выклікаў прымус*
*Забіць трывогу аб той мове,*
*Якой азваўся беларус?*

*Чаму вам дзіка яго мова?*
*Паверце, вашай ён не ўкраў,*
*Сваё ён толькі ўспомніў слова,*
*З якім радзіўся, падрастаў.*

Геніяльны сын беларускага народа напісаў гэты верш у адказ на гнюсныя выпады расійскіх чарнасоценцаў, якія адмаўлялі нават сам факт існавання беларускага народа і яго мовы. Як вядома, у царскай Расіі праводзілася паслядоўная палітыка русіфікацыі ўсіх нярускіх народаў. Гэта палітыка азначала, па сутнасці, імкненне Расіі да поўнага знішчэння нярускіх народаў. Аб тым, што гэта была за палітыка, яскрава сведчыць той факт, што ў царскай Расіі было нават забаронена называць Беларусь Беларуссю. Да самага распаду царскай імперыі было забаронена выдаваць на тэрыторыі Беларусі кнігі, часопісы і газеты на беларускай мове ці навучаць беларускай мове. Царызм разглядаў Беларусь у якасці сваёй калоніі і праводзіў тут сваю каланіяльную палітыку. Прыблізна такая ж самая палітыка праводзілася ва ўсіх захопленых Расіяй землях. Менавіта па гэтай прычыне Уладзімір Ільіч Ленін называў Расію турмой народаў. Трэба сказаць, што народы Расійскай імперыі адказвалі на каланіяльную палітыку царызму пастаяннай барацьбой, на падаўленне якой Расія расходавала значныя сродкі, што аслабляла яе пазіцыі ў канкурэнцыі з іншымі дзяржавамі свету і ў рэшце рэшт наблізіла яе крушэнне і захоп улады бальшавікамі, якія адкінулі Расію на стагоддзе назад у параўнанні з іншымі дзяржавамі.

Аслабленне Расійскай імперыі на пачатку 20-га стагоддзя, якое стала відавочным пасля вайны з Японіяй, прывяло да развіцця нацыянальна-асветніцкай дзейнасці ў нацыянальных ускраінах царскай Расіі. Пачалася такая дзейнасць і на Беларусі. І вось тады расійскія чарнасоценцы распачалі сваю гнюсную прапаганду супраць беларускай мовы.

Другая хваля нападак на беларускую мову, гэтым разам ужо з боку расійскіх бальшавікоў, пачалася амаль адразу ж пасля кастрычніцкай рэвалюцыі. Яна вялася ажно да пачатку другой сусветнай вайны і прывяла да поўнага вынішчэння нацыянальных кадраў на Беларусі. Напрыклад, перад вайной была амаль поўнасцю знішчана Акадэмія навук Беларусі. Для абгрунтавання неабходнасці поўнага вынішчэння беларускіх нацыянальных кадраў маскоўскія валадары прыдумалі, што нібыта на Беларусі ўтварылася нацыяналістычная арганізацыя, якая ставіла на мэту адарванне Беларусі ад СССР і ўсталяванне на Беларусі дэмакратычнага ладу.

Сітуацыя крыху змянілася ў сувязі з другой сусветнай вайной. Народная гаспадарка Беларусі была амаль поўнасцю знішчана, і Масква не надавала асаблівай увагі нацыянальным праблемам, хаця аб іх ніколі не забывала. І Масква прадэманстравала гэта на пачатку шасцідзесятых гадоў падчас прыезду на Беларусь Мікіты Сяргеевіча Хрушчова, які ў сваёй прамове ў Мінску запатрабаваў поўнага і хуткага пераходу Беларусі ва ўсіх сферах дзейнасці на выкарыстанне рускай мовы. Гэта нібыта павінна было садзейнічаць больш хуткай пабудове камунізму.

Зразумела, што такое ж патрабаванне было выстаўлена да ўсіх саюзных рэспублік. І яно пачало планамерна ажыццяўляцца. Найбольш аддана ўзяліся, аднак, за выкананне гэтай русіфікатарскай акцыі, якая наогул не мела ніякага дачынення да пабудовы камунізму, а была простым паўтарэннем каланіяльнай палітыкі царызму, беларускія халуі маскоўскіх уладароў. На Беларусі пачалося масавае закрыццё беларускіх школ, так што ў хуткім часе амаль усе школы Беларусі былі пераведзены на рускую мову навучання. Як вядома, гэта не дапамагло пабудаваць камунізм, і савецкая сістэма ціха сканала. І чым больш яна слабела, тым больш актыўна развівалася нацыянальная свядомасць у народаў Савецкага Саюза, якія паціху пачалі разумець, што яны маюць неад'емнае права на самастойнае існаванне і на развіццё сваёй нацыянальнай культуры, сваёй нацыянальнай мовы. Такія ж працэсы пачаліся і на тэрыторыі Беларусі, хаця і не так актыўна, як у іншых рэспубліках СССР.

Паўтарылася тое самае, што перажыла Расія ў 1917 годзе. Тады аслабленне моцы Расійскай імперыі ў выніку беспаспяховай вайны з Германіяй і Аўстра-Венгрыяй прывяло да яе распаду і аб'яўлення незалежнасці ад Расіі ўсіх народаў, якія ўваходзілі ў яе склад. Праўда, Ленін даստаткова хутка раздавіў гэтую незалежнасць жалезнай рукой і стварыў дзяржаву пад назвай СССР, якая фармальна была саюзам суверэнных рэспублік, а на самай справе была чырвонай Расійскай імперыяй. Аб гэтым шмат разоў гаварыў прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Барыс Мікалаевіч Ельцын. Прычым, паводле яго слоў, гэта была адна з самых жорсткіх і крывавых імперый, якія калі-небудзь існавалі на нашай планеце.

Імперскія памкненні СССР сталі відавочнымі напрыканцы 80-х гадоў, калі былі ўведзены савецкія войскі ў Афганістан і была распачата спроба саветызацыі гэтай краіны. Вайна ў Афганістане і гонка ўзбраення поўнасцю падарвалі моц Савецкага Саюза і наблізілі яго канец. І толькі самы тупы абывацель не можа зразумець гэты факт і спрабуе прыпісаць распад СССР выключна дзейнасці дэмакратычных сіл у Савецкім Саюзе, а таксама развіццю нацыянальнай свядомасці ў нацыянальных ускраінах Савецкага Саюза.

Масква, зразумела, спрабавала змагацца з нараджэннем гэтага руху ў рэспубліках Савецкага Саюза. Але яна была ўжо ў стане аморфнай расслабленасці і нават не змагла знайсці нейкія абгрунтаваныя аргументы супраць імкнення здаровых сіл у рэспубліках да аднаўлення сваёй нацыянальнай культуры. Аб гэтым сведчыць хаця б той факт, што ў барацьбе з нараджаючыміся нацыянальнымі рухамі яна паспрабавала выкарыстаць аргументы, якія ўжываліся расійскімі чарнасоценцамі яшчэ на пачатку 20-га стагоддзя. Ва ўсіх рэспубліках СССР пад дыктоўку Масквы пачалася прапагандысцкая кампанія, мэтай якой было даказаць, што выкарыстанне нацыянальных моў у рэспубліках стане тормазам на шляху выхаду з цяжкай эканамічнай сітуацыі, у якой апынуўся ў канцы 20-га стагоддзя СССР.

У артыкулах, якія з'явіліся ў газетах, што выходзілі на тэрыторыі Беларусі, сцвярджалася, што галоўнай праблемай для народа з'яўляецца праблема забеспячэння прадуктамі харчавання і таварамі шырокага ўжытку і што шырокае ўжыванне на Беларусі беларускай мовы не дасць насельніцтву Беларусі ні каўбасы, ні масла. Аналагічныя прапагандысцкія артыкулы з'явіліся ў кожнай рэспубліцы СССР. Зразумела, што ўтрымаць распад СССР з іх дапамогай было немагчыма. Канец СССР наступіў у снежні 1991-га. На яго месцы ўтварылася Садружнасць незалежных дзяржаў (СНД), кожная з якіх спрабуе сёння знайсці сваю дарогу ў будучае.

Чарнасоценныя сілы Расіі не маглі пагадзіцца з падобным развіццём спраў. Адразу ж пасля распаду СССР і ўтварэння СНД яны адкрыта заявілі аб неабходнасці любым шляхам захапіць краіны СНД і ўключыць іх у склад Расійскай Федэрацыі на правах звычайных суб'ектаў Расійскай Федэрацыі. Прычым гэтыя планы ў Расіі абмяркоўваліся і абмяркоўваюцца абсалютна адкрыта. Пасля таго як Прэзідэнт Беларусі прапанаваў стварыць цесны саюз Расіі з Беларуссю, усе расійскія палітыкі, уключаючы тых, хто называе сябе дэмакратамі, пачалі адкрыта абмяркоўваць, як уключыць Беларусь у склад новай Расійскай імперыі. Яны адкрыта заяўлялі, што гэта самая важная задача знешняй і ўнутранай палітыкі Расіі. У шматлікіх тэлевізійных дыскусіях адкрыта гаварылася аб уключэнні Беларусі ў склад Расіі і аб тых выгадах, якія прынясе вырашэнне гэтай задачы. Вось яны. Па-першае, ракеты, якія стаяць пад Масквой, будуць перанесены ў Беларусь. Гэта адразу ж павялічыць бяспеку Масквы. Справа ў тым, што ў выпадку вайны ў першую чаргу падвергнуцца нападу варожых атамных ракет тыя тэрыторыі Расіі, дзе размяшчаюцца расійскія ракеты. Па-другое, Расія будзе атрымліваць з Беларусі прадукты харчавання, якіх заўсёды не хапае ў Расіі. Ні адзін расійскі палітык пры гэтым ні слова не сказаў, а што ж дасць уключэнне Беларусі ў склад Расіі для насельніцтва Беларусі. Гэтым яны яскрава пацвярджалі тое, што лёс насельніцтва Беларусі Маскву не цікавіць. Між іншым, Масква гэта заўсёды дэманстравала ў адносінах да Беларусі. Узяць хаця б той факт, што пасля аварыі на ЧАЭС на тэрыторыі Беларусі былі асаджаны радыеактыўныя воблакі. Масква баялася, што яны могуць дайсці да Масквы. І вось цяпер тыя грамадзяне ў забруджаных радыяцыяй рэгіёнах Беларусі, што нясуць сваіх нябожчыкаў на могілкі, павінны ад усёй душы падзякаваць Маскве за тое, што яна памагла скараціць жыццё іх сваякам.

У канцы 1996 года расійскія палітыкі прыйшлі, нарэшце, да згоды і заявілі, што Беларусь трэба ўключаць у склад Расіі асобнымі абласцямі, каб назаўсёды выключыць магчымасць, што ў будучым насельніцтва Беларусі можа нарэшце працверазіцца і паспрабаваць кансалідавацца ў адзін народ. Такі вось "раўнапраўны" саюз паміж Беларуссю і Расіяй бачыцца ў Маскве.. Гэтыя планы маскоўскіх "інтэгратараў" адкрыта засведчылі тое, што Масква прыступае да ліквідацыі беларускага народа наогул.

У Беларусі ж у гэты час пачалася шалёная атака супраць усіх тых, хто асмельваўся адмоўна выказацца наконт падобнага саюзу, адзінымі мэтамі якога быў перанос атамных ракет на Беларусь для абароны Масквы і вываз прадуктаў харчавання ў Расію. Усе тыя асобы ў Беларусі, якія спрабавалі выказаць сумненне ў карысці падобнага саюзу з Расіяй для Беларусі, аб'яўляліся ворагамі беларускага народа, нацыяналістамі і нават дэмакратамі. Само ж слова дэмакрат ператварылася да гэтага часу ў самую брудную лаянку. Тое самае сталася з беларускай мовай. Прадстаўнікі ўлады для таго, каб паказаць, што іх праціўнікі — самыя страшэнныя ворагі Беларусі, гаварылі аб тым, што гэтыя праціўнікі ўмеюць размаўляць на "матчынай мове". Здольнасць нейкай асобы на Беларусі гаварыць па-беларуску афіцыйныя асобы разглядалі як доказ ненармальнасці гэтай асобы і ўслых ганарыліся тым, што яны самі наогул не валодаюць ніякай мовай. Гэта унікальны выпадак у гісторыі. На свеце больш няма ніводнай краіны, акрамя "суверэннай" Беларусі, дзе веданне роднай мовы разглядаецца як злачынства супраць народа.

Варта ў гэтай сувязі адзначыць наступнае. У любой краіне свету любы чалавек, які не валодае роднай мовай, разглядаецца проста як некультурны чалавек. А той, хто нават выхваляецца, што ён не ведае сваёй роднай мовы, разглядаецца як самы звычайны хам. Тыя ж, хто акрамя таго вядзе барацьбу на вынішчэнне сваёй роднай мовы, наогул разглядаюцца ўсюды ў свеце як нелюдзі і выродкі. Справа ў тым, што мова з'яўляецца важным элементам, які стварае нацыянальныя асаблівасці чалавека. Таму вынішчэнне яго роднай мовы азначае адначасна і вынішчэнне народа. Зразумела, што дапамагаць вынішчаць свой народ нармальны чалавек не будзе. Гэта будзе рабіць толькі нелюдзь, вырадак. І толькі ў Беларусі афіцыйныя асобы спрабуюць з такіх хамаў і вырадкаў стварыць патрыётаў, а тых, хто шануе родную мову, паказваць як страшэнных ворагаў Беларусі і ўсяго цывілізаванага свету. Гэтая асаблівасць беларускіх уладаў асабліва яскрава праявілася сёння, калі насельніцтва Беларусі рыхтуецца да выбараў прэзідэнта.

Я быў проста ашаломлены, калі 18 жніўня глядзеў перадачу "Панарама" Беларускага тэлебачання (БТ). Гэтую праграму вёў палітычны аглядальнік БТ Казіятка. З якой злосцю гэтая асоба шальмавала кандыдатаў у прэзідэнты Беларусі Ганчарыка і Домаша за тое, што тыя заявілі, што ў выпадку перамогі на выбарах яны адновяць афіцыйны статус беларускай мовы. Раней я лічыў, што Казіятка, у адрозненне ад іншых палітычных аглядальнікаў БТ, псіхічна нармальны чалавек. Але, калі я пачуў ад яго паўтарэнне чарнасоценных аргументаў супраць беларускай мовы, распрацаваных спецслужбамі Расіі, я ў гэтым усумніўся.

Але выпады Казіяткі супраць беларускай мовы — гэта проста нішто ў параўнанні з тым, што выказаў 20 жніўня ў праграме БТ "Правы чалавека: погляд у свет" Я.Новікаў. З пенай на губах і з вачыма, што вылазілі на лоб, ён лямантаваў, што ажыццяўленне абяцання Ганчарыка і Домаша прывядзе да грамадзянскай вайны і мора крыві на Беларусі, што адбудзецца тое, што адбылося ў Малдове, што Ганчарык і Домаш спецыяльна хочуць увядзеннем у афіцыйны ўжытак беларускай мовы развязаць крывавую бойню на Беларусі, што ім напляваць на важнейшыя праблемы Беларусі, а гэта — пад'ём вытворчасці, сельскай гаспадаркі, арміі і г.д., якія нібыта на Беларусі ў катастрафічным становішчы. Я, напрыклад, пагадзіцца з Новікавым ніяк не магу. Я веру прэзідэнту і ураду Беларусі, якія няспынна сцвярджаюць, што эканамічнае становішча Беларусі цудоўнае і пастаянна паляпшаецца. Я не веру, што залогам шчаслівай будучыні беларускага народа з'яўляецца поўная адмова ад беларускай мовы і аб'яўленне ўсіх беларусаў ісціннымі патрыётамі Расіі. Калі б руская мова магла тварыць падобныя цуды, то трэба было б лічыць, што самай багатай у свеце краінай з'яўляецца Расія. Але ж добра вядома, што Расія — адна з бяднейшых краін сярод народаў белай расы. Напрыклад, сярэднія даходы на душу ў год у Расіі ў 20 разоў меншыя, чым у краінах Заходняй Еўропы! І гэта адна з прычын вельмі кароткага жыцця ў Расіі. Сярэдняя працягласць жыцця расійскіх мужчын складае толькі каля 58 год у параўнанні з 76 гадамі заходняга еўрапейца і з 80 гадамі японца. Прыведзеныя даныя дэманструюць поўную фальш сцвярджэнняў, што русіфікацыя Беларусі прывядзе яе да эканамічнага працвітання.

Ворагі Беларусі ўжываюць і іншыя аргументы, каб пераканаць насельніцтва Беларусі ў неабходнасці вынішчэння беларускай мовы. Яны сцвярджаюць, што руская мова адыгрывае важную ролю ў палітыцы, сусветным гандлі, навуцы, культуры і турызме. Яны спасылаюцца на тое, што руская мова з'яўляецца афіцыйнай мовай ААН і іншых важных міжнародных арганізацый.

Усе гэтыя аргументы ворагаў Беларусі наскрозь фальшывыя. Возьмем, напрыклад, праблему міжнароднага статусу рускай мовы. Так, сапраўды, руская мова з'яўляецца афіцыйнай мовай ААН і іншых важных міжнародных арганізацый.

*(Заканчэнне на 4-й стар.)*

ЛІКБЕЗ

# ВЫРАДКІ

*(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)*

Усяго ж маецца 6 афіцыйных моў у міжнародных арганізацыях. Гэта англійская, іспанская, французская, арабская, кітайская і руская мовы. Ёсць таксама і рабочая мова міжнародных арганізацый. Гэта англійская мова. Рабочай яна з'яўляецца таму, што на ёй выпрацоўваюцца ўсе дакументы і вядзецца справаводства, а ўжо затым некаторыя дакументы выпускаюцца таксама і на іспанскай, французскай, арабскай, кітайскай і рускай мовах. І толькі гэтым руская мова адрозніваецца, скажам, ад румынскай або мовы тубыльцаў акіянскіх астравоў. Па сутнасці, руская мова ў параўнанні з англійскай, адыгрывае на міжнароднай арэне такую ж незавідную ролю, як беларуская ў параўнанні з рускай на Беларусі.

Тое самае можна сказаць і наконт ролі, якую адыгрывае руская мова ў міжнародным гандлі, навуцы, культуры і турызме. Узяць хаця б гандаль. Якую ролю можа адыгрываць у гэтай сферы Расія, калі яе ўклад у сусветны гандаль складае толькі каля аднаго працэнта. Па гэтым паказчыку Расія нават уступае маленькай Галандыі. Зусім невялікі ўклад Расіі і ў сусветны навуковы працэс. У гэтай сферы маюцца колькасныя паказчыкі, якія паказваюць уклад кожнай краіны ў развіццё навукі. Гэта колькасць публікацый і спасылак на апублікаваныя матэрыялы. Гады са два таму ў Расійскай акадэміі навук было праведзена спецыяльнае даследаванне. У выніку яго было ўстаноўлена, што ў перыяд з 1993 па 1997 год расійскія вучоныя далі 3,69% ад усіх публікацый у свеце. Пры гэтым навукоўцы ЗША далі 37,49%, што ў 10 разоў перавышае долю расійскіх навукоўцаў. Або іншы прыклад. Уклад навукоўцаў Вялікабрытаніі склаў за гэты ж перыяд 9,27%, што ў 2,5 раза перавышае ўклад расійскіх спецыялістаў.

Яшчэ горшая справа з выкарыстаннем апублікаваных матэрыялаў. Па спасылках на апублікаваныя матэрыялы Расія заняла 89-е месца ў свеце. Гэта азначае, што апублікаваныя матэрыялы ў Расіі, гэта значыць, матэрыялы, апублікаваныя на рускай мове, ніхто не чытае! А гэта катастрофа для расійскай навукі. Справа ў тым, што адсутнасць спасылак на матэрыялы, надрукаваныя на рускай мове выключае магчымасць таго, што Расія магла б прэтэндаваць на нейкі прыярытэт у навуковых адкрыццях. Прычына падобнага становішча з рускай мовай у навуковай сферы вельмі простая. Сёння рабочай мовай навукі стала англійская. І па гэтай прычыне толькі тыя матэрыялы могуць быць заўважаны спецыялістамі іншых краін, калі яны надрукаваны на англійскай мове. Расійская акадэмія навук гэта зразумела, і, каб выправіць становішча, пачала пераводзіць навуковыя часопісы на англійскую мову. У 2000 годзе 83 важнейшыя навуковыя журналы Расійскай акадэміі навук друкавалі навуковыя артыкулы на англійскай мове. Зразумела, што гэты крок Расійскай акадэміі навук азначае адкрытае прызнанне таго, што руская мова не адыгрывае ніякай ролі ў сферы навукі. Чарнасоценная ж прапаганда на Беларусі сцвярджае, што толькі поўнае выкарыстанне рускай мовы ў навуцы і вышэйшых навучальных установах Беларусі дапаможа росквіту беларускай навукі. У маі 1995 года, за некалькі дзён да рэферэндуму аб статусе рускай мовы ў Беларусі, па Беларускім тэлебачанні выступіў адзін састарэлы акадэмік-фізік, які пераконваў тэлегледачоў Беларусі, што ўвядзенне беларускай мовы ў Акадэміі навук прывядзе да поўнай катастрофы ў сферы навукі. Зразумела, што падобныя сцвярджэнні сапраўдны навуковец зрабіць не можа, таму што ён ведае, што ўсе важнейшыя навуковыя матэрыялы публікуюцца выключна на англійскай мове.

Прыведзеныя прыклады яскрава сведчаць, што ўсе аргументы ворагаў беларускай мовы — фальшывыя, а значыць, прапаганда супраць беларускай мовы скіравана проста на тое, каб поўнасцю дэмаралізаваць насельніцтва Беларусі і гэтым аблегчыць захоп Беларусі.

Гэта подлая прапаганда вядзецца так даўно, што, здавалася б, на яе ўжо не трэба і ўвагу звяртаць. Аднак, выбарчая кампанія прывяла да таго, што ворагі беларускай мовы ўжо пераступілі ўсе магчымыя межы. Калі антыбеларускай прапагандай займаецца арганізацыя тыпу РНЕ ці ёй падобныя і калі БТ дае магчымасць весці антыбеларускую прапаганду якой-небудзь асобе, запрошанай дзеля гэтага на БТ, і зусім іншае, калі такой прапагандай пачынаюць займацца супрацоўнікі самога БТ, якое з'яўляецца дзяржаўнай установай і ў сваёй дзейнасці павінна кіравацца Канстытуцыяй і іншымі законамі Беларусі. Вядома, што паводле Канстытуцыі, беларуская мова з'яўляецца дзяржаўнай мовай, а гэта азначае, што ўсе служачыя дзяржаўных устаноў павінны беражліва да яе адносіцца. "Дык што рабіць у гэтай сітуацыі", — можа спытаць чытач гэтага артыкула. На гэта можна адказаць, што застаецца толькі спадзявацца на тое, што прэзідэнт Беларусі аддасць загад надзець намордністоў на сваіх халопаў, якія выкарыстоўваюць дзяржаўнае тэлебачанне дзеля таго, каб даказаць, што мова беларусаў нейкая нялюдская мова, а значыць, і самі носьбіты гэтай мовы — недачалавекі. Я не сумняваюся, што паважаны Аляксандр Рыгоравіч у стане зразумець, што антыбеларуская па духу прапаганда, якой займаюцца зімоўскія, казіяткі і новікавы, наносіць яму самому непапраўную шкоду. Як будуць да яго ставіцца палітыкі, калі яны даведаюцца, што ў Беларусі антыбеларускай прапагандай займаецца дзяржаўнае тэлебачанне. І яшчэ адзін, ужо маральны, аспект. Вядома, што значную частку выбаршчыкаў паважанага Аляксандра Рыгоравіча складаюць жыхары вёсак і маленькіх мястэчак, якія ведаюць толькі беларускую мову. Я думаю, што і маці Аляксандра Рыгоравіча гаворыць толькі на беларускай мове. Дык чым можна апраўдаць антыбеларускую пазіцыю Беларускага тэлебачання?

Калі б я меў магчымасць сустрэцца з прэзідэнтам Беларусі, я б сказаў яму наступнае: "Паважаны Аляксандр Рыгоравіч, адкажыцеся ад паслуг такіх асоб, як Новікаў. Ён жа наносіць Вам вялікую палітычную шкоду. Я не сумняваюся, што любы нармальны чалавек, які глядзіць гэтыя перадачы, ніколі не прагаласуе за Вас, таму што ён будзе думаць, што Новікаў толькі агучвае Вашы намеры па канчатковым знішчэнні беларускай мовы. Навошта яе вынішчаць? Яна ж і так канае. Важна іншае. У сваіх перадачах ён часам вярзе такія рэчы, якія не можа выказаць нармальны чалавек. Я сам гляджу яго перадачы выключна з мэтай устанаўлення таго, ці нармальны ён псіхічна. Хаця, канешне, ён медык і можа сімуляваць псіхічна хворага чалавека. Магчыма, яго нават можна зразумець. Ён быў бліжэйшым паплечнікам Зянона Станіслававіча Пазьняка па пабудове дэмакратыі на Беларусі, а сёння са скуры вылузваецца, каб пераканаць улады, што ён заўсёды быў страшэнным ворагам дэмакратыі".



У Сергея Демидюка из деревни Долбизно Каменецкого района несколько лет назад сломался телевизор. Ремонт длился долго и, чтобы не скучать, он занялся новым для себя делом — резьбой. И получилось. Теперь дом Сергея украшают резные карнизы и наличники, зеркала и подставки. А недавно он изготовил шкатулку, которая полюбилась котенку Алисе.

**Фото Романа КОБЯКА, БелТА.**

Эврика!

## Искусственная почка убила шестерых испанцев

Испанские медики столкнулись с несколькими необъяснимыми случаями смерти пациентов во время прохождения медицинских процедур. В течение августа шесть больных погибли в городе Валенсия во время очистки крови на аппарате "искусственная почка". Проведение этой процедуры временно приостановлено.

## Генетики подскажут женщинам, когда заводить ребенка

Способность к деторождению и возраст наступления менопаузы запрограммированы в генах. К такому выводу пришли голландские ученые, обследовавшие более двухсот женщин. Авторы исследования надеются создать тест для прогнозирования возраста, до которого женщина сможет завести ребенка. Это даст возможность планировать создание семьи.

## Диабетиков будут лечить аспирином

Американские ученые нашли новое применение для аспирина. Они установили, что в высоких дозах он может помочь больным сахарным диабетом второго типа. Эксперименты на больных мышах доказали, что аспирин эффективно снижает уровень сахара в крови.

## Ранние морщины

Лондонские ученые обнаружили, что люди, которые выглядят старше своих лет, имеют несколько иной состав крови. У мужчин оказалось выше содержание эритроцитов, а у женщин — пигмента билирубина, образующегося при распаде эритроцитов. Авторы исследования пока не могут объяснить полученные данные.

## Дети наркоманов умирают во сне

Грудные дети, отцы которых курили марихуану, подвержены вдвое большему риску внезапной смерти во время сна. Курение матери на статистике не сказывается. Ученые предполагают, что химические вещества, содержащиеся в марихуане, отрицательно влияют на качество сперматозоидов.

## Ученые научились восстанавливать поврежденный спинной мозг

Канадские ученые разрабатывают принципиально новый способ лечения повреждений спинного мозга. В экспериментах на крысах им удалось добиться направленного роста нервных клеток вдоль маленьких искусственных трубочек, заполняющих пространство между участками поврежденного спинного мозга.

ДОКУМЕНТЫ ИСТОРИИ

# Слежка на общественных началах

*Сов. секретно*
*ЦК КПСС.*

С разрешения ЦК КПСС органами госбезопасности в Москве, Ленинграде, Киеве, Минске, Тбилиси, Сталинграде и Туле летом 1960 года были скомплектованы группы внештатных сотрудников, которые на общественных началах участвуют в наблюдении за иностранцами.

За истекшее время нештатные сотрудники, подобранные с помощью партийных организаций из числа коммунистов и комсомольцев — рабочих, служащих, студентов, а также неработающих пенсионеров органов Госбезопасности и внутренних дел, во многих случаях положительно себя зарекомендовали в наблюдении за иностранцами.

Особенно полезным было использование нештатных сотрудников в наблюдении за иностранцами в часто посещаемых ими местах, где они имеют условия для проведения встреч с интересующими их лицами. Например, в Москве во время функционирования японской промышленной выставки нештатными сотрудниками выявлено более 30 человек, имевших подозрительные контакты с японцами.

Успешно проводилось наблюдение за иностранцами в музеях, читальных залах библиотек, плавательных бассейнах и других местах.

Опыт первых месяцев работы нештатных сотрудников подтвердил целесообразность этой активной формы привлечения общественности к работе органов госбезопасности.

Учитывая это, полагаем целесообразным, чтобы нештатные сотрудники привлекались к работе не только в летнее время, но также и в другие периоды года.

Просим согласия.

*Председатель Комитета госбезопасности СССР*
*(А. Шелепин)*
22 сентября 1960 г.

**Подготовил Игорь КУЗНЕЦОВ.**

БЫВАЕТ И ТАКОЕ

## 69-летняя англичанка пыталась отравить свою 90-летнюю мать

69-летняя Дореен Маршалл призналась в суде в умышленной попытке отравления своей больной матери. Она навестила в доме престарелых в Лютоне слепоглухую Сецилию Маршалл, которая уже много лет была прикована к постели. Во время визита дочь положила матери в стакан сока чрезмерную дозу лекарств. Врачам Лютонской больницы удалось спасти 90-летнюю женщину от передозировки.

## Первая девочка за сто лет

Новорожденная Мая Вилсон осчастливила и удивила семейство Вилсонов, в котором на протяжении 101 года рождались только мальчики. Предыдущая девочка появилась в семье Вилсонов в 1900 году, ею была Хелен Линдсей Гей. С тех пор в семействе рождались только мальчики, всего их было 15, в том числе двое близнецов Вилсонов: Финлей и Фрейзер, которым сейчас по два года. Брат Марку Стивен Вилсон не нарушил семейную традицию — у него двое сыновей — назвал появление в семье девочки "фантастическим сюрпризом".

## Скрещивание людей и животных

В пятницу Европейское патентное бюро в Мюнхене (EPA) отклонило требование активистов организации Greenpeace запретить патент EP 322240, позволяющий ученым американского университета в Стэнфорде скрещивать животных и людей. В тексте документа описаны возможности создания таких мутантов: допускаются эксперименты по скрещиванию человека и мыши, а также человека и обезьяны. В ближайшее время планируется создать обезьяну с человеческим мозгом и мышь с человеческими клетками крови.





# Как работает мозг?

Новое исследование, проведенное американскими учеными из Арканзасского университета подтвердило, что человеческий мозг продолжает развиваться примерно до 50 лет. Автор исследования доктор Джордж Бартцокис и его коллеги основывают свое заключение на серии предпринятых ими магниторезонансных просвечиваний.

Обследование 79 человек в возрасте от 19 до 76 лет показало, что количество серого вещества мозга начинает уменьшаться по достижении половой зрелости. Однако белое вещество, жировая ткань, изолирующая длинные отростки нервных клеток и ускоряющая передачу нервных импульсов во фронтальной части лобных долей, продолжает расти почти до 50 лет, и только после этого также начинает сокращаться.

Доктор Бартцокис сравнивает серое вещество, покрывающее мозг, с компьютерами, рассредоточенными по Интернету, а белое вещество под ним сравнивает со связывающими их кабелями. И он предполагает, что с ростом белого вещества улучшается способность мозга перерабатывать информацию, подобно тому, как расширение каналов интернетной связи повышает эффективность работы компьютеров.

"До 50 лет развиваются как раз те области мозга, которые необходимы для мышления и управления нервными импульсами, — говорит доктор Бартцокис, — именно то, что делает нас людьми". Исследование арканзасских ученых опубликовано в американском "Журнале общей психиатрии". Их открытие поможет специалистам лучше понять причины психических болезней и дегенеративных заболеваний мозга.



## Среда, 5 сентября

**БТ**

06.30 Доброе утро, Беларусь!
07.00 Новости.
07.10 Доброе утро, Беларусь!
09.00 Новости.
09.15 **"Морская полиция".** Сериал (Австралия).
10.00 Здоровье. Тележурнал.
10.25 Сад мечты. Программа для дачников.
11.00 Приключенческий фильм **"Бухта французского пирата"** (Великобритания).2-я серия.
12.00 Новости.
12.15 Добрый день, Беларусь!
13.00 **"Футболист".** Худ.фильм ("Мосфильм").
14.25 Док. сериал "Сокровища мировой культуры" (Германия).
15.00 Новости.
15.20 "Мой любимый зверь". Док.сериал для детей (Международный французский канал).
15.30 "Все на орбиту!" Познавательный сериал для детей (Международный французский канал).
15.40 **"Маленькие Эйнштейны".** Сериал для детей (Германия).
16.05 "Пять чудес".
16.15 "5 x 5". Информационно-развлекательная программа для старшеклассников.
17.00 **"Морская полиция".** Сериал (Австралия).
18.00 Новости.
18.20 Зона Икс.
18.30 Час профессионала.
19.00 **"Джен Эйр".** Сериал (Великобритания). 4-я серия.
20.00 Шаги навстречу.
20.20 Панорама. Информационный канал.
20.55 Футбол. Отборочный матч чемпионата мира. Беларусь — Польша. Трансляция с Минского стадиона "Динамо". В перерыве (21.45) — Третий тайм.
23.00 Спорт-курьер.
23.10 Криминальное досье.
23.35 "Встреча в Троицком" с Александром Домарацким.
24.00 Новости.

**ОРТ**

08.00, 11.00, 17.00, 22.30 Новости.
08.15, 17.50 **"Земля любви".** Телесериал.
09.15 **"Русский транзит".** Телесериал. 1-я серия.
10.15 "Пока все дома".
10.50 "Библиомания".
14.40 **"Частное лицо".** Худ.фильм. 3-я серия.
16.00 "Большая стирка".
17.20 "Человек и закон".
18.50 **"Русский транзит".** Телесериал. 2-я серия.
20.00 "Время".
20.40 Футбол. Отборочный матч Чемпионата мира. Сборная Фарерских островов — сборная России.
22.55 "Русский экстрим".
23.25 Триллер **"Незнакомец в доме".**

**РТР**

08.00 Вести.
08.15 "Два рояля".
09.00 Моя семья.
10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести.
10.30 **"Санта-Барбара".** Сериал.
16.30 Детектив **"Визит к Минотавру".** 3-я серия.
18.00 Сериал **"Амазонка".**
19.30, 22.30 Вести Москва.
19.50 Детектив **"Убийство на Ждановской".**
21.30 БОЛЬШОЙ РЕПОРТАЖ РТР. "Трудно быть БАМом".
22.40 Фильм **"Контроль земли".**
00.35 ГОРЯЧАЯ ДЕСЯТКА.
01.30 Прогноз погоды.

**КУЛЬТУРА**

09.00 Программа передач.
09.05 **"Война и мир".** Худ.фильм. 2-я серия.
10.40, 16.40 **"Блистательные Азераки".** Сериал.
11.30, 13.30, 17.30, 19.30, 23.00 Новости культуры.
11.40 **"В начале славных дел".** Худ.фильм. 1-я серия.
12.45 "Встреча". Док.фильм.
13.45 Вместе с Фафалей.
13.55 "Ох, уж эти детки." Мультсериал (США).
14.30 "Русская Палестина. Новый Иерусалим".
15.10 **"Морской лев Солти".** Сериал.
15.35 "Преступление волка. Мадуев". Док.фильм. 1-я серия.
17.30 Новости культуры.
17.40 "Выбранные места из..." Лариса Васильева.
17.55 В.Моцарт. Концерт-рондо.
18.10 "Пять чеховских "Чаек" на Ш Всемирной театральной Олимпиаде".
18.50 Былое в лицах. "Сладкая женщина смутного времени".
19.45 Спокойной ночи, малыши.
20.00 Отечество и судьбы. Рахманиновы.
20.40 **"Война и мир".** Худ.фильм. 2-я серия.
22.15 Обсерватория.



**НТВ**

05.00, 06.00, 07.00 "Сегодня утром".
05.15, 06.15, 07.15 Спорт, погода.
05.20, 06.25, 07.20, 15.35, 18.35, 23.50 Криминал.
05.30, 06.35, 07.25 Впрок.
05.40, 06.45, 07.40 Карданный вал.
05.45 Мультфильм.
07.50 Сериал **"Солдаты удачи".**
09.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
09.25 **"Российская империя".** Фильм Л.Парфенова.
10.30 "Среда". Экологическая программа.
11.30 Музыкальная сказка **"Обыкновенное чудо".** 1-я серия.
13.30 Старый телевизор.
14.45 Впрок.
15.50 Сериал **"Ее звали Никита".**
16.55 Сериал **"Рожденный вором".**
19.10 Детектив **"Город принял".**
21.50 Комедия **"Ты — мне, я — тебе".**
00.10 Сериал **"Солдаты удачи".**

**TV-6**

05.45, 14.25, 17.40, 00.20 Дорожный патруль.
06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 10.00, 14.00, 16.00, 18.00, 20.00 Сейчас.
06.10, 06.35, 07.35 День за днем.
07.15, 20.30 Тушите свет.
07.50 Назло.
08.25 Ток-шоу "В нашу гавань заходили корабли".
09.20, 14.35 Телемагазин в Минске.
10.25 Сериал **"Возвращение Сандокана".**
11.35 Сериал **"Следствие ведут знатоки": Дело № 18.**
13.25 Сериал **"Третья планета от Солнца".**
14.50 100 чудес света: "Горилла".
16.35, 18.50 Сериал **"На углу, у Патриарших-II".**
20.45 Сериал **"Улицы разбитых фонарей": "Блюз осеннего вечера".**
22.00 Грани.
22.40 Чемпионат Европы по баскетболу среди мужчин.

**СТВ+RenTV**

06.00 "Ползучее войско". Мультсериал.
06.30 "Кот по имени Ик". Мультсериал.
07.00 "Питер Пен". Мультсериал.
07.30 "Король Артур и рыцари без страха и упрека". Мультсериал.
08.00 Международные спортивные новости.
08.15 Новости СНГ.
08.40 "Киноафиша Минска".
08.50 "Виртуальный мир".
09.00 Комедийная мелодрама **"Просто любовь".**
11.30 "Случайный свидетель".
12.00 Новости СТВ.
12.15 "Дискавери" на СТВ.
12.45 Программа "Тайны Старой площади" — "Казначей Ленина".
13.50 **"Убойная сила"** Телесериал.
15.00 Новости СТВ.
15.15 Кулинарные рецепты от ресторана "Лесной".
15.30 ""Кот по имени Ик". Мультсериал.
16.00 "Питер Пен". Мультсериал.
16.30 "Король Артур и рыцари без страха и упрека". Мультсериал.
17.00 "Чертенок" Теленовелла.
18.00 Новости СТВ.
18.15 Международные спортивные новости.
18.30 "Случайный свидетель".
19.00 "Тема дня".
19.15 "Вечарніца".
19.30 Комедийный боевик **"Непобедимый тигр".**
21.35 **"Парижский антиквар"** Телесериал.
23.00 "Проспект-200".
23.15 Новости "СТВ — 24 часа".
23.30 "Виртуальный мир".
23.40 Минск на перекрестке столетий.
23.45 Драма **"Все о Еве".**

**Адрас рэдакцыі:**
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: (017) 206-68-71.
Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04.
E-mail : nv@irex.minsk.by
http://nv.promedia.minsk.by
**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**



Рэгістрацыйнае пасведчанне №246. Нумар газеты надрукаваны з дыяпазітываў у ПП "Мэджык". Адрас: г. Мінск, вул. Кнорына, 50. Падпісаны ў друк у 15.00. Фармат А-2. Тыраж: 43 370 экз. Заказ № 710.